Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 200.000 м.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрас рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Пэдпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1.500000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 300.000 мк., сярод тэксту 250.000 м. і на 4 стр. 200.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 8 (29). Вільня, Чацьвер, 24-га. студзеня 1924 г. Год II.

## Будаваньне Беларусі.

А ўсё-ж такі Яна будуецца!

Парэзаная жыўцом на кускі, падзеленая паміж прагавітымі суседзямі, выкасаваная з карты Эўропы і як-быццам засуджаная на сьмерць і нябыт, — Беларусь не памерла і ў сэрцах і душах сыноў сваіх перажыла,ператрывала часы ліхалецьця, каб ізноў паўстаць да жыцьця.

Мы бачылі, як на маленечкім кусочку Беларускай Зямлі, у Меншчыне, засьвяцілася перш толькі слабенькая іскрачка — пачалося будаваньне Радавае Беларусі ў межах шасьцёх паветаў.

Будавалі яе: *беларускі селянін і работнік.* А кожын крок упярод трэба было рабіць з боем, перамагаючы цэнтралістычныя і нацыяналістычныя імкненьні „пануючага народу“, што ад царскіх часоў захаваў усе благія навыкі „дзяржаўнае нацыі“.

З боем здабывалі беларусы права на родную мову ў *сваей* Рэспубліцы. З боем ішло беларушчаньне школы, празначанае дзеля *абмаскоўленьня* беларускага народу. З боем ачышчалася мініятурная Беларуская Рэспубліка ад чужацкіх элемэнтаў, што панаехалі сюды „валадзець і правіць“ намі. Але стойкасьць і цьвёрдасьць мужыцкіх сыноў і работнікаў, на долю якіх выпала вялікая і радасная праца: будаваньне Бацькаўшчыны, — перамаглі ўсе перашкоды.

І мы бачылі, як тая сіла, што ўверх дном перавярнула жыцьцё старое Расейскае дзяржавы, прызнала нашае права на самастойнае нацыянальнае жыцьцё і на зьдзейсьненьне ў шырокіх межах нашага дзяржаўнага ідэалу.

Мы бачылі, як справа беларускага нацыянальнага адраджэньня і будаваньня беларускай нацыянальнай культуры была прызнана ня менш важнай, чым справа сацыяльнага вызваленьня беларускіх працоўных масаў. І да гэтай вялікай працы былі паклікаНы ўсе тыя беларускія дзеячы, каторых учора йшчэ лічылі „контр-рэвалюцыянерамі“ за іх умілаваньне ідэалу нацыянальнага адраджэньня свайго народу.

У працягу некалькіх гадоў на абшары шасьцёх паветаў Радавае Беларусі адбывалася гуртаваньне беларускіх сіл, якія прымушаны былі кідаць родныя месцы ў „дэмакратычнай“ Заходняй Беларусі; адбывалася ўзгадовываньне цэлае арміі новых маладых працаўнікоў на роднай ніве; тварылася кузьня палітычнае і культурнае працы, дзе выковываліся новыя цэннасьці беларускае мысьлі, навукі, літэратуры, мастацтва. А тое сьвятло, ў якое разгарэлася гэная маленечкая іскрачка беларускага жыцьця ў Менску, асьвятляла ня толькі Меншчыну, але пранікала і ў Магілёўшчыну, і ў Вітабшчыну, і ў Смаленшчыну, і ў Чарнігаўшчыну. І на тых землях, што былі „прырэзаны“ да Маскоўшчыны, пачало будзіцца і кіпець і бурліць раней замершае тамака беларускае жыцьцё. Тварыліся беларускія школы і культурныя установы; беларускі дух пранікаў і падчыняў сабе тамтэйшыя „рады“.

З абодвух бакоў граніцы Радавае Беларусі з Маскоўшчынай усё больш і больш вострa адчувалася патрэба аб'яднаньня. І вось, сьледам за ператварэньнем Радавае Расеі ў Саюз Сацыялістычных Радавых Рэспублік, настаў мамэнт справядлівага разьмежаваньня нацыянальных дзяржаўных адзінак, што ўваходзяць у склад Саюзу. А перад усім настаў мамэнт аб'яднаньня ўсіх беларускіх зямель, што ляжаць на ўсход ад лініі Рыжскага міру, ў адну *вялікую Сацыялістычную Радавую Рэспубліку Беларусь.*

Польскія газэты паведамляюць, што такое аб'яднаньне аканчальна пастаноўлена. У найбліжэйшым часе ў Менску мае адбыцца надзвычайны Усебеларускі Зьезд Радаў, у якім прымуць учасьце дэлегаты *ад усіхновапрылучаных беларускіх зямель,* каб супольна разьвязаць усе пытаньні, зьвязаныя з адміністрацыяй і арганізацыяй *новае Радавае Беларусі.*

Мы горача вітаем гэты нязвычайна важны ў беларускім жыцьці факт. Як ні цяжка жывецца беларусам у Заходняй Беларусі, як ні далёкі мы тут ад зьдзейсьненьня ўсенароднага імкненьня *быць гаспадарамі на сваей зямлі,* — мы цешымся, што хоць за гранічнай мяжой гэтае імкненьне, гэты ідэал ужо зьдзейсьнены. Там — за мяжой — ідзе запраўднае *будаваньне і зьбіраньне Беларусі.* Там разгараецца вялізарнае беларускае нацыянальнае вогнішча, якое праз гранічныя слупы будзе асьвятляць і саграваць і нас, распаляючы ў душах і сэрцах нашых нязломную веру, што раней ці пазьней *адбудуецца Беларусь наша так, як у нашых снах-лятуценьнях мы яе сабе выабражаем.*

## Парыжскія гастролі п. Ладнова.

Вядомы ўжо беларускаму грамадзянству палк. Ладнов, які некалі, удаючы беларуса, укруціўся ў беларускія кіраўнічыя арганізацыі, каб „аказваць услугі“ саюзьніцы Польшчы — Францыі (за што дастаў францускі крыж „пачэснае легіі“), даволі доўгі час правёў у Варшаве, „выкрываючы“ сярод беларусаў праціпольскую работу і няістнуючыя „змовы“ проці польскае дзяржавы. Як некалі гэты-ж самы пан Ладнов абвінавачываў усіх „інародцаў“ Расеі, (а ў тым ліку, значыцца, *і палякоў*), быццам іх адраджэнскія рухі зьяўляюцца „нямецкай інтрыгай“, маючай на мэце „разваліць вялікую Расею“, — так цяпер ён аб'явіў такой-жа „нямецкай інтрыгай“ жаданьне народаў Польшчы (створанай пры падмозе немцаў!) жыць сваім нацыянальным жыцьцём і разьвіваць сваю нацыянальную культуру. І за ўвесь час яго бытнасьці ў Польшчы ў польскай чорнасоценнай прэсе зьяўляліся паскудныя, брахлівыя даносы на беларусаў, меўшыя на мэце нацкаваць на нас ўсё польскае грамадзянства.

Беларуская прэса кожын раз выясьняла ўсю брахлівасьць гэных заяваў пана Ладнова, але п. Ладнов не зварачаў на гэта ніякае ўвагі і бяз сораму паўтараў сваё далей. Цяпер-жа, вярнуўшыся ў Парыж, скуль быў прысланы сваім францускім начальствам, зьбірае ў-вадно ўсе свае старыя брэхні і ў парыжскіх газэтах далей вядзе кампанію проці беларусаў.

Так, нядаўна ён надрукаваў у парыжскай польскай газэце „Życie Polskie“ стацьцю, у якой гаворыць аб „беларуска-жыдоўска-бальшавіцкім супрацоўніцтве“ і пускае ў сьвет ім-жа самым выдуманую вестку, быццам у Менску абвешчана *бальшавікамі* „Жыдоўская Рэспубліка“, якая быццам-то створана на аснове ўмовы п. Ластоўскага з жыдоўскімі *сіяністамі* (!!). Гэтыя ідыотычныя брэдні п. Ладнов апірае на тым, што быццам у яго прысутнасьці 16 сьнежня 1920 году ў Жэневе п. Ластоўскі на нарадзе з жыдоўскімі нацыянальнымі дзеячамі Н. Сакаловым і Л. Моцкіным заявіў: „Беларусы сваей інтэлігенцыі ня маюць. Польскай і расейскай не патрабуем. Дык няхай жыдоўская інтэлігенцыя будуе незалежную Беларусь“.

Хоць мы і ня вельмі цэнім „дыплёматычныя“ здольнасьці п. Ластоўскага, — аднак, толькі п. Ладнов мог думаць, што нехта паверыць яго расказам аб падобнай заяве п. Ластоўскага. Дый хутка аказалася, што ўвесь гэны Ладноўскі расказ выдуманы ім акурат таксама, як выдумана і „Жыдоўская Рэспубліка“ ў Менску. Тая-ж польская часопісь „Życie Polskie“ надрукавала дужа цікавае пісьмо п. Моцкіна, з якога выяўляецца, што да жыдоўскае кішані тады ў Жэневе заглядаў нават і не п. Ластоўскі, а... сам п. Ладнов!

Вось даслоўны пераклад пісьма п. Моцкіна, якое перадруковываем паводле „Gazety Warszawskiej“:

„Заявы п. Ладнова ня згодны з праўдай. Праўдай зьяўляецца тое, што па даручэньню камітэту жыдоўскіх дэлегацыяў, які месьціцца ў Парыжу, я і п. Нахум Сакалоў былі ў Жэневе ў сьнежні 1920 г. з прычыны першага сабраньня Лігі Нацыяў. П. Ладнов і яго таварышы з беларускае дэлегацыі — пасьля некалькіх просьбаў аб аўдыэнцыю — былі намі прыняты прыватна, не ў асобным габінэце, а ў агульнай залі гасьціньніцы „de l' Ecu“ дзе ў часе нашае сустрэчы было шмат народу. Праўдай зьяўляецца тое, што п. Ладнов і яго таварышы дамагаліся ад нас матарыяльнае дапамогі на карысьць незалежнае Беларусі. Мы, аднак, нічога не абяцалі і не зрабілі ніякае ўмовы. Мы толькі заявілі, што, як прадстаўнікі нацыянальнае арганізацыі, спагадаем кожнай нацыянальнай культуры. Ня было мамэнту, каб мы сулілі помач некаторым тэрыторыяльным камбінацыям, бо гэта выходзіла-бы за межы камітэту жыдоўскіх дэлегацыяў. Няпраўда так-жа, быццам мы пасьля гэтага паехалі ў Бэрлін „дзеля выпаўненьня ўмовы“. Фактычна п. Сакалоў і я ўраз-жа пасьля спаўненьня нашае місіі ў Жэневе вярнуліся ў Парыж“,

П. Ладнов на гэту заяву п. Моцкіна дае адказ, у якім... нічога не пярэчыць, толькі „выгаражывае“ сябе, кажучы, што ён нічога і ня знаў, і ня ведаў, а ўсё рабіў п. Ластоўскі. Ну, гэта дык чыста дзіцячая гутарка: хіба ня знойдзецца ніводнага чалавека, які-бы меў наіўнасьць паверыць, што, ідучы на размову з п. п. Сакаловым і Моцкіным, п. Ладнов запраўды „ня ведаў“, аб чым будзе гутарка!

Ды годзе аб гэтым. П. Ладнов, які сябе называе „беларусам“, аканчальна ўжо раскрыў свае карты і паказаў сваё аблічча ...францускага разьведчыка, які *выдумывае* розныя „небясьпекі“ для Польшчы з боку зьвязаных па рукам і па нагам беларусаў, каб пабуджаць Польскую Рэспубліку цалком аддацца сваей „апякунцы“ Францыі, ды каб за такую карысную для францускага мілітарызму дзейнасьць п. Ладнов мог атрымліваць грошы і ордэны. Усім вядома, як называецца такая „работа“...

Але гэта „работа“ ані ня зьменіць жаданьня беларусаў, што пад Польшчай, зьберагчы сваю нацыянальную душу, не перашкодзе нам змагацца з гвалтоўнай палянізацыяй, не запужае і ня прымусіць зыйсьці з абранае намі дарогі *самаабароны.* Хай там сабе Ладновы цкуюць проці нас польскае грамадзянства, хай банды „актывістаў“ і „зялёнадубцаў“ у сваіх лістках абліваюць гразёй нашых дэпутатаў, хай розныя бязыдэйныя пісакі злосна чарняць кожнага, хто толькі робіць якую-колечы *творчую* беларускую работу, — мы ня зойдзем з нашае дарогі: ніхто-ж з нашых злосьнікаў дагэтуль не паказаў беларусам нейкае другое дарогі, бо *другое дарогі для нас — няма!*

**К—віч.**

ГРАМАДЗЯНЕ! Дарагоўля расьцець. Выдаваньне цяпер газэты вымагае вялікіх коштаў. Зьбірайце сярод знаёмых ахвяры на беларускі прэсовы фонд! Падтрымлівайце сваю газэту акуратнай высылкай падпісных грошай. Заахвочвайце да падпіскі другіх!

# Адкрытае пісьмо

## да Асьвячонага Сыноду Праваслаўнае царквы ў Польшчы.

*Вашыя Высоканайасьвячонствы, ласкавыя Архіпастыры і Айцы.*

Вам ужо досыць добра ведама аб тых немагчымых адносінах, якія стварыліся паміж кіраўніцтвам тутэйшае Праваслаўнае Сэмінарыі ды адміністрацыяй нашае Беларускае Гімназіі.

Апроч таго, што ўсё гэта з вялікім сумам перажываецца кожным праваслаўным сэрцам, жадаючым жыць, як паказаў нам Госпад наш Ісус Хрыстос, у любві і міры, асабліва ў цяперашні цяжкі для праваслаўных час, такія адносіны паміж дзьвюма роднымі інстытуцыямі стварылі ўрэшце ня толькі маральна, але нават і фізычна немагчымае палажэньне.

Ужо некалькі месяцаў трывае гэтая прыкрасьць, і я, тутэйшы праваслаўны беларус, сын якога вучыцца ў сэмінарыі, а дачка і пляменьніцы—ў беларускай гімназіі, уважна сачыў за кожным новым этапам завінуўшайся, сорамна і больна казаць, барацьбы, і з надмернай цярплівасьцю чакаў, калі-ж урэшце вырашыцца гэтая справа.

Але, на вялікі жаль, беларусы да самага апошняга часу ніяк ня могуць дайсьці да паразуменьня з добра ведамым усім Архімандрытам Піліпам Марозавым, які стаіць на чале сэмінарыі.

Высоканайасьвячоныя Уладыкі, мусіць, зусім ясна прадстаўляеце сабе ўсю справу і з пасланага беларусамі да Вас мэморыялу і з вусных інфармацыяў нашых дэлегацыяў. Думаю так, бо ведаю, што Першасьвяціцель наш, Высоканайасьвячоншы Мітрапаліт Дзяніс, уважна выслухаўшы першую беларускую дэлегацыю, знайшоў дамаганьні беларусаў справядлівымі і даў адпаведны загад аб іх задаваленьні, але, мне, узгадаванаму ў духу праваслаўнае сьціпласьці, нават страшна падумаць!—Рэктар Сэмінарыі Архімандрыт Піліп ня толькі пакінуў без выкананьня загад свайго Мітрапаліта, але адважыўся на гвалт, уцягнуўшы ў гэтую справу і сэмінарыстаў: ён перайшоў на ранішнія гадзіны, але зламаў для гэтага замкі ў клясовых дзьвярох.

Пры гэтым Архімандрыт і яго бліжэйшыя супрацоўнікі ўвесь час пашыралі чуткі, што прычына непаразуменьня быццам крыецца ў асабістых няпрыязных адносінах да рэктара адміністрацыі гімназіі.

Беларускае грамадзянства з дзіўным самаўладаньнем перанясло ўсё гэта, маючы на мэце захаваньне перш-на-перш свае культурнае інстытуцыі; яно пайшло нават далей: адміністрацыя гімназіі, якая, па чутках, якія пашырала сэмінарскае начальства, была „прычынай і віной усяго", уступіла сваё мейсца, дзеля аднаўленьня згоды, новаму чалавеку грам. Рад. Астроўскаму, які з 1-га студзеня б. г. абняў пасаду Дырэктара гімназіі.

Далёкі наагул ад якой-бы ня было палітыкі, а тым болей ад тутэйшых сварак, гр. Астроўскі маніўся шчыра пацыйсьці да Арх. Піліпа, шукаючы толькі якого-небудзь магчымага выхаду з стварыўшайся сітуацыі, якая пярэчыць самым мінімальным вымаганьням пэдагогікі.

Гр. Астроўскі, як я чуў, запрапанаваў Арх. Піліпу некалькі камбінацыяў, пры якіх гімназія і сэмінарыя маглі-б мець адначасна ранішнія гадзіны, але Архімандрыт ніводнага варыянту ня прызнаў за здавальняючы яго жаданьні.

Такім чынам нават і падыход зусім сьвежага і бязумоўна бесстароннага чалавека не палепшыў справы, а толькі стаўся лішнім доказам таго, што тут не ў асобах сіла.

А агульнае палажэньне гімназіі далей так трываць не магло, бо Ацец Рэктар так захапіўся сваім ваяўнічым настроем, што пазбавіў гімназію клёзэтаў, так што дзеці, і хлапцы і дзяўчаты, прымушаны ў часе патрэбы лётаць на сьцюдзёны панадворак.

Але нішто... Мы спадзяёмся, што калі Бог ня выдасьць, то Ацец Рэктар і інспэктар нас не зьядуць. Ня гледзячы на самыя немагчымыя варункі, якія стварыла для Беларускае гімназіі кіраўніцтва Сэмінарыі, мы, відаць, самі павінны шукаць сабе ратунку: па пляну, апрацаванаму Дырэктарам гімназіі Астроўскім, гімназія на гэтым яшчэ тыдні пяройдзе на ранішнія гадзіны, нясучы для гэтага новыя ахвяры: дзеля няхвату пакояў, яна зрабіць клясы нават з сваей канцэлярыі і фізычнага габінэту, адну клясу ўтворыць на калідоры, але палепшыць агульна-пэдагогічныя варункі сваей працы і тады будзе чакаць Вашага, Высоканайасьвячоншыя Уладыкі, апошняга справядлівага слова.

Ува ўсіх нас, бацькоў, ёсьць пэўнасьць, што Вы пакладзіцё канец тым ганебным выяўленьням самых нізкіх пачуцьцяў, якімі ахарактарызаваў сябе Арх. Піліп і яго бліжэйшыя супрацоўнікі.

А што гэта вымагаецца зрабіць безадкладна, гавораць самыя факты: з жалем у сэрцы прымушан пасьведчыць, што маральны ровень нашага сялянства прыметна абніжаецца, пашыраецца атэізм.

І ў такі адказны момант будучыя бацюшкі пасылаюцца сваім рэктарам на гвалтоўны злом замкоў і рабаваньне лаўкаў у сваей жа роднай сястры—Беларускай Гімназіі.

Вось чаму дазвольце, Высоканайасьвячоншыя Уладыкі, скончыць маё да Вас пісьмо, прадыктаванае безнадзейным сумам майго сэрца, рашучай просьбай ад імя ўсіх бацькоў,—пазбаўце нашых дзяцей і нас ад такіх духоўных правадыроў, якія замест эвангельскае любові навучаюць дзяцей нашых гвалту ды ізуверству.

Чакаючы сьвятых малітваў Вашых аб умацненьні нас у веры бацькоў нашых, прашу Вашага благаслаўленьня.

**Бацька-беларус.**

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

З ініцыятывы (пачыну) Камісара загр. спраў С.С.Р.Р. польскі ўрад згадзіўся распачаць перагаворы аб заключэньні чыгункавай умовы паміж абодвыма краямі. Перагаворы пачнуцца каля паловы лютага ў Варшаве і, будзем мець надзею, давядуць да мэты.—Можа, нарэшце, Менск перастане быць ад Вільні далей, як Нью-Іорк ці Пэкін...

Пад памешканьне Цэнтральнага Камітэту партыі „Вызваленьне" ў часе паседжаньня Саюзу Легіёністаў („пілсудчыкаў") у Варшаве правіцовая баёўка падкінула бомбу, якая была ў час угледжана і заліта вадой.

На зьезьдзе польска-расейскай Гранічнай Камісіі ў Варшаве высьветлілася, што толькі ў траўні ці чэрвені можна будзе зацьвердзіць праведзеную Камісіяй граніцу.

Паны Корфанты, Плюцінскі і Сэйда (эндэкі і хадэкі) купілі за 8 міл. даляраў вялізарныя абшары наступнікаў Гогэнлоэ у 80.000 гэктараў, напалову лесу... Зямельная рэформа ў Польшчы, як відаць, праводзіцца добра.

Ад 1/I па 15/I дарагоўля ў Варшаве ўзрасла на 80,62 °/o°/o. У Вільні — аж на 105 °/o!

Прэм. Грабскі абяцаў, што ня будзе „замазваць" справы П. П. П.—польскіх фашыстаў... Але ўжо ўсе лодзінскія сябры арганізацыі выпушчаны з пад арышту, а таксама ўлады абяцалі звольніць з вастрогу і варшаўскіх... Відаць, за шмат хто з уплывовых людзей з правіцовага олімпу моцна скампрамітаваны... і добра бароніць сваіх.

Польскія „людоўцы" Пяста прынялі рад рэзалюцыяў, сярод якіх найважнейшыя датычаць пашырэньня яшчэ далей паўнамоцтваў Прэзыдэнта Рэсп. коштам Парлямэнту, а таксама грунтоўнай зьмены выбарнага закону, у якім мяркуюцца зусім спыніць прапорцыянальнасьць выбараў, і ўвясьці новы—на карысьць Хьены і Пяста падзел на выбарныя акругі, разам з памяншэньнем ліку паслоў і сэнатараў, зразумела, коштам „меншасьцяў" і „крэсаў"...

Дзяржаўныя даўгі Польшчы, паводле справаздачы Кантрольнай Камісіі, на 30 чэрвеня м. г.

Амэрыцы—186.529.432,79 даляраў, Францыі—770.853.404,29 франкаў, Англіі — 4.503.818 фунт. стэрл., Італіі—75.000.000 ліраў, Голяндыі—12.737.320 флор., Норвегіі — 16.326.857,47 крон і 1.238 фунт. стэрл., Даніі—358.849,81 крон, Швэцыі — 1.973.080 крон, Швайцарыі—73.600 франк.

Апрача таго ўнутраны доўг быў — 169.221.-283.189 мар. (па таму курсу, які быў у чэрвені) і яшчэ 47.911.750 злотых.

А апрача таго задаўжэньня ў Касе Пазычковай было каля 3-х трыльёнаў марак. Як ведама, цяпер яно ўжо ў канцы году было аж 111 трыльёнаў.

## С. С. Р. Р.

### Сьмерць Леніна.

**Афіцыяльна паведамляюць аб сьмерці Леніна. Ленін памёр 21 студзеня г. г. а 6 гадз. 50 мін. у Горках. Цела Леніна будзе перавезена ў Маскву. Хаўтуры адбудуцца 26 студзеня.**

„Роста" паведамляе, што канфэрэнцыя камуністычнай партыі Саюзу Радавых Рэспублік закончылася. Дыскусія пад канец канфэрэнцыі была шмат спакайнейшая, чым на пачатку. Радэк атрымаў вялізарную большасьць. Прэображэнскі выказаў пераконаньне, што розьніца паглядаў пасьля абмяркаваньня абодвых рэзалюцыяў Цэнтральнага Камітэту спыніцца, дзеля таго што апазыцыя прынцыпова згаджаецца на гэтыя рэзалюцыі. Прадстаўнік Цэнтр. Каміт. Саюзу Камуністычнай Моладзі стаіць бязумоўна па старане Цэнтр. К - ту. Рэзалюцыі Цэнтр. К - ту прыняты аднагалосна. Згодна з гэтай рэзалюцыяй работніцкая дэмакратыя абвяшчае: „вольнае і адкрытае права для партыйнага жыцьця ўсіх сябраў і гарантуе свабоду дыскусіі, не згаджаючыся аднак на такія спробы, якія знаходзяцца ў супярэчнасьці з прынцыпамі камуністычнай партыі".

## НЯМЕЧЧЫНА.

У Баварыі ізноў пачаліся арышты сацыялістаў правым урадам. Партыя с.-д. абвясьціла пратэст, дамагаючыся скасаваньня выняткавага стану ў краі, і хутчэйшага скліканьня парлямэнту.

У Дюсельдорфе адбыліся вялікія дэманстрацыі камуністаў. Паліцыя пусьціла ў ход аружжа, колькі ранена.

Мін. загр. спраў п. Штрэзэман на канфэрэнцыі з журналістамі заявіў гарачы пратэст проціў створанага францускай акупацыйнай уладай „незалежніцкага руху ў Надрэніі і Палятынаце. Ангельскі ген. Кляйв апрасіў усе клясы насяленьня і сьцьвердзіў адсутнасьць у апошняга думкі аб адарваньні ад Нямеччыны. Прамоўца заявіў, што пакуль ня будзе адбудована поўная сувэрэннасьць (вярхоўная ўлада) Нямеччыны, у абодвых акупаваных і адарваных краёх ня можа быць мовы аб тым, каб немцы сплацілі адшкадаваньні. Прадоўжаньне палітыкі Пуанкарэ пагражае ня толькі зьніштажэньнем Нямеччыны, але і паважнымі забурэньнямі эканамічнага жыцьця самой Францыі, пачатак чаго можна ўжо дагледзець — у спадку франка.

## ФРАНЦЫЯ.

Пасьля прамовы Пуанкарэ ў адказ на інтэрпэляцыі аб загранічнай палітыцы Францыі Парлямэнт вялізарнай большасьцю—445 проці 126 — выразіў поўнае даверые ўраду, які „мае і надалей вясьці палітыку збаўленьня народу".

Барацьба ўраду Пуанкарэ са спадкам франка вядзецца далей, але штосьці вынікі яе ня вельмі значныя.

Абодвы камітэты рэчазнаўцаў пры Камісіі Адшкадаваньняў распачалі сваю дзеяльнасьць па дасьледу фінансавых здольнасьцяў Нямеччыны.

Парыжскія газэты дамагаюцца для Прэзыдэнта Рэспублікі Мільерана дыктатарскіх паўнамоцтваў на паўгода для санацыі фінансаў і для правядзеньня нейкіх „вялікіх грамадзкіх і рэлігійн. рэформаў"? Прэм. Пуанкарэ сабраў прадстаўнікоў вялікіх парыжскіх банкаў, каб парадзіцца ў іх, як можна перашкодзіць машэнствам пры спагоне

# Колькі слоў аб зямельнай палітыцы польскіх „левых" партыяў.

Для нашага беларускага народу, які ў пераважнай сваей большасьці складаецца з працоўнага сялянства, асабліва важным зьяўляецца пытаньне аб зямлі. Пры выбарах у Польскі Сойм дамаганьне „зямля бяз выкупу працоўнаму сялянству" асабліва падчырківалася нашым селянінам, і ўсе тыя партыі, якія стараліся правясьці сваіх кандыдатаў галасамі нашага сялянства, прымушаны былі ўпісаць гэтае дамаганьне ў сваю выбарную плятформу.

Паверыўшы гэтым абяцанкам, наш селянін аддаваў свае галасы паміж іншым і на сьпіскі вызваленцаў і пэпэсаў. Нічога з гэтых абяцанак ні адны ні другія ня выпаўнілі; уся палітыка гэтых партыяў у Сойме, выявіўшаяся ў падтрыманьні розных „безпартыйных" габінэтаў, якія і слухаць не хацелі аб правядзеньні зямельнай рэформы, а толькі пасылалі на нашыя землі асаднікаў, ясна сьведчыць аб запраўдных адносінах гэтых партыяў да разьвязаньня зямельнага пытаньня. У сваё апраўданьне „польская лявіца" кажа, што яна ня мела яшчэ ўлады ў сваіх руках і што дзеля гэтага не магла правесьці ў жыцьцё сваей праграмы. У той мамэнт, калі ўлада пяройдзе ў яе рукі, зямельнае пытаньне, як і чарада іншых, будзе разьвязана так, каб забясьпечыць інтарэсы працоўнага народу.

Гэтыя заявы ня зусім згаджаюцца з праўдай: польская лявіца ў асобах яе афіцыяльных правадарыў Марачэўскага і Тугута ўжо раз была атрымала ўладу з рук рэвалюцыйных працоўных масаў, але гэтую ўладу вельмі хутка аддала бяз ніякай барацьбы эндэцыі, бо ня верыла ў сілу працоўнага народу і за час сваіх урадаў ані крышачкі не зьмяніла істанаваўшага эканамічнага і сацыяльнага ладу.

Але можа скажуць нам, што „польская лявіца" зразумела свае памылкі і калі-б зноў узяла ўладу ў свае рукі, дык павяла-б справу інакш, пашла-б насустрэчу сялянства і задаволіла-б яго неадкладныя патрэбы. Ці гэта так? Абрады XIX Кангрэсу Р. Р. S. даюць нам адказ на гэтае пытаньне.

Правадыры Р. Р. S., выхаваныя ў старой школе даваеннага сацыялізму заўсёды адзначаліся тым, што не разумелі патрэбаў сялянства, лічылі сялянства рэакцыйным і не пазбыліся гэтых паглядаў на сялянства і дагэтуль, выяўляючы поўнае неразуменьне сялянскай справы. Праўда цяпер і сярод Р. Р. S. знаходзяцца людзі, як напр. п. Квапінскі, якія бліжэй стыкаючыся з вёскай, ня могуць застацца глухімі і сьляпымі на патрэбы сялянства, але і яны, хоць шмат гавораць аб важнасьці сялянскай справы, таксама ня выказалі поўнага яе зразуменьня.

Пасол Квапінскі быў дакладчыкам на зямельнаму пытаньню на кангрэсе і ўнёс праект рэзалюцыі аб зямельнай рэформе. Рэзалюцыя стаіць на грунце ўхвалы Уставадаўчага Сойму з 10 ліпня 1919 г., лічучы, што гэтая ўхвала дужа добрая і толькі правядзеньне яе ў жыцьцё было дрэннае. Трэба быць вельмі наіўным, каб не сказаць больш, калі шчыра думаць, што той закон, які можа даць зямлю толькі багатаму селяніну, можа задаволіць вясковую беднату. Ды мусіць і сам п. Квапінскі мала верыць у дабрату гэтай ўхвалы, бо сам-жа дамагаецца ў ёй пэўных зьменаў. Па думцы п. Квапінскага абшарнікам трэба пакінуць на 180 гэктараў, а рэшта зямлі павінна перайсці на ўласнасьць дзяржавы бяз выкупу. Пан Квапінскі разумее, што каб правясьці запраўдную зямельную рэформу, дык трэба ўзяць зямлю ад абшарнікаў бяз выкупу, але ён ня хоча надта пакрыўдзіць і паноў і пакідае ім на 180 гэк. зямлі, думаючы, што улагодзіўшы гэтым абшарнікаў, лягчэй можна будзе правясьці зямельную рэформу. Мы ўжо добра ведаем, што пакуль абшарнікі маюць сілу, дык яны нічога дабравольна не дадуць, а калі працоўны народ будзе настолькі моцным, што ня будзе патрабаваць панскай

падаткаў. Відаць, і там маючыя клясы—ня лепшыя, як у Польшчы.

### ФІНЛЯНДЫЯ.

Крызіс габінэту спыніўся. Зложаны новы ўрад з праф. Каяндэр на чале.

### АНГЛІЯ.

Быўшы правадыр Партыі Працы Гэндэрсон заявіў, што ня мае срэдстваў, каб перашкодзіць выбуху агульнай чыгунковай забастоўкі.

---

Папраўка да адрэсу ў адказ на тронную прамову, унесеная праз Партыю Працы, якая выражае недаверые ўраду Бальдвіна, ухвалена 328 галасамі проціў 256. Лібэралы галасавалі за папраўкай Партыі Працы.

Пасьля галасаваньня Бальдвін зажадаў адлажыць паседжаньне палаты гмінаў да 12 лютага, але большасьць адкінула гэтае дамаганьне Дзеля гэтага чарговае паседжаньне адбудзецца на другі дзень і па прапазыцыі Мак-Дональда адложыць свае працы. Гэта зьяўляецца перасьцярогаю, каб Бальдвін не распусьціў парлямэнту і не пазначыў новых выбараў. Спадзяюцца, што Бальдвін заўтра падасьць у адстаўку, а кароль даручыць Мак-Дональду ўтварэньне новага габінэту.

### ІТАЛІЯ.

Распушчаны парлямэнт. Новыя выбары адбудуцца аж 26-га красавіка.

**Папраўка** Надрукаваная ў папярэднім нумары вестка „Габінэт падаўся ў адстаўку“ памылкова пастаўлена пад загалоўкам „Францыя“. Габінэт падаўся ў адстаўку не ў Францыі, а ў Фінляндыі.

# З газэт.

### Пагроза голадам.

„Robotnik“ у суботняй перадавіцы гэткімі панурымі фарбамі малюе ўтварыўшаяся ў Польшчы палажэньне:

> Весткі, якія наплываюць з усяго краю, тое, што робіцца на рынках па вялікіх местах, ведамасьці, што йдуць з вёскі, — наганяюць хмары клапотаў і несупакою ў галовы грамадзян. Што будзе за тыдзень, за два? Скуль узяць грошы, каб заплаціць пекару? Ня кажам аб мясьніку, бо работніцкая кляса ад месяцаў ужо ня ведае, што такое мяса. За тыдзень лусту хлеба будзе лічыць найвялікшым, рэдкім прысмакам. Фабрыкі спыняюць работу, або абмяжовываюць прадукцыю, чакаючы, каб рынкі спажыткавалі тавары, што ляжаць па складах у Лодзі, Згежу, Заверцю, Бельску і Беластоку. Калі-ж гэта прыйдзе? І, пакуль гэта прыйдзе, якія істнуюць магчымасьці папраўы адносін у нашых прамысловых акругах?..
>
> Работніцкая кляса змагаецца цяпер на шырокіх прасторах Рэчыпаспалітай з прывідам голаду. Змагаецца і—*яшчэ* маўчыць.
>
> Але народы Захаду не дарма некалі казалі: *маўчаньне народу—гэта навука каралю.*

Запраўды, дорага абходзіцца працоўным масам Польшчы „аздараўленьне“ скарбу, разрабленага за пяць гадоў істнаваньня Польскае Рэспублікі польскай буржуазіяй...

### Падгатоўка да зламаньня канстытуцыі.

Пасьля газэтнай кампаніі проці польскай канстытуцыі, ведзенай хіенскай прэсай, правыя партыі ў Сойме рыхтуюцца ад слоў перайсьці да дзела. Першыя крокі ў гэтым кірунку робяць ,,пястоўцы“ на чале з нядаўным прэм'ерам Польшчы, Вітасам. Аб апошніх пастановах соймавага клюбу ,,Пяста“ эндэцкі ,,Dziennik Wileński“ з радасьцяй перадказывае словы сваіх ,,старшых братоў“—сталічных эндэцкіх органаў:

> „Gazeta Warszawska“ з здаваленьнем вітае рэзалюцыі партыі Вітаса ў справе канстытуцыі і выбарнага закону, кажучы, што галоўныя пункты гэтых рэзалюцыяў у гэтай справе зыходзяцца з дамаганьнямі „Людова Нацыянальнага Саюзу“. Ня можа быць сумляваньня, што рэшта партыяў быўшае польскае большасьці займуць такое-ж становішча. „Gazeta Warszawska“ падае праект, каб партыі быўшае польскае большасьці стварылі камісію дзеля падгатаваньня асноў праектаванае рэвізіі канстытуцыі і выбарнага закону. Таксама і „Dziennik Polski“, орган блізкі да вялікіх зямляўласьнікаў, зьмяшчае стацьцю з пахваламі для пастановы „Пяста“ і піша, што „Пяст“—гэта першы клюб, які афіцыяльна выказаўся на карысьць узмацаваньня выканаўчае ўлады (—значыцца, ураду. *Рэд*).

Як бачым, Вітас аканчальна прадаў абшарнікам і эндэкам інтарэсы працоўных масаў і ,,працуе“ над тым, каб проціў волі народу паставіць моцную і безадказную ўрадовую ўладу, якая-б бараніла інтарэсы саюзьнікаў п. Вітаса. А што на гэта скажуць працоўныя масы Польшчы?

### Як польскае грамадзянства „знаёміць“ з Вільняй чужаземцаў.

„Dziennik Wileński“ перадрукаваў з сэрбскае газэты „Время“ стацьцю нейкага сэрбскага пасла, што прыяжджаў у Вільню з групай другіх сэрбскіх паслоў, у якой апісаны прыём іх віленскімі палякамі і тыя „ведамасьці“, якімі былі тут „надзелены“ сэрбскія госьці.

Аўтар стацьці гавора, што толькі ў Вільні ён убачыў

> „праўдзівую польскую красу“

і што

> „ўсе былі здаволены і ўсе былі ўзварушаны, *незалежна ад гарэлкі*, бо прыём быў сардэчны“.

Мы падчыркнулі словы аб гарэлцы, бо яны толькі і могуць растлумачыць, чаму „гаспадары“ Вільні адважыліся апавядаць „намокшым“ ужо добра госьцям, што

> „Замковая Гара гаварыла *аб пазьнейшай гісторыі Польшчы*: на ёй знаходзяцца руіны Замку і Кляштару сьв. Марціна, пабудаваных у XIV сталецьці Гедымінам“.

У нас вучні пачатковае школы ведаюць, што ў XIV сталецьці ў Вільні ня было і духу польскага, а места гэтае было сталіцай Беларуска-Літоўскага Гаспадарства. Ведаюць такжа, што Гедымін ня мог будаваць каталіцкага кляштару сьв. Марціна — і то ў сваім абаронным замку, бо ня быў хрысьціянінам. Але падвыпіўшыя сэрбы ўсяму паверылі і — паказалі ўсяму сьвету сваю поўную бязграматнасьць у гісторыі.

„Dzien. Wil.“, зьмяшчаючы гэту стацьцю кажа:

> „Яна (стацьця) зьяўляецца для нас цікавым сьвядоцтвам, як гэткія русафілы, якімі зьяўляюцца сэрбы, ня вельмі ахвочыя да прызнаньня польскасьці крэсаў, адчулі аднак польскасьць і каталіцкасьць Вільні“.

Мы можам запэўніць орган п. Обста, што, калі-б сябры ў яго — Обста—кампаніі выпілі ўдвая гэтулькі, сколькі ім далі, дык паверылі-бы заявам і аб тым, што Вільня—гэта кітайскі горад!

Усё залежыць у такіх выпадках толькі ад... „меры сардэчнасьці“ „гаспадароў“.

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## ХРОНІКА.

**Паседжаньне Цэнт. Бел. Шк. Рады.** 27 студня а 5 гадзіне ў вечары ў памешканьні Школьнае Рады адбудзецца сход Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады. На парадку дня: 1) Разгляд і зацьверджаньне сьметы Віленскае Бел. Гімназіі; 2) Разгляд і зацьверджаньне новага ўнутранага парадку ў гімназіі і 3) Бягучыя справы.

**Чаму хлеб не таньнее?** Ня гледзячы на тое, што ў працягу апошніх двух тыдняў цана на жыта спала з 7 мільёнаў да 4 з паловаю мільёнаў м. п. за пуд, цэны на хлеб застаюцца тыя самыя.

**Канфэрэнцыя з працаўнікамі тартакоў.** 21-га студзеня адбылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў клясовага саюзу работнікаў драўлянай прамысловасьці і ўласьнікаў тартакоў. Абгаварывалася справа падвышкі заработнай платы згодна з узростам дарагоўлі ў першай палове студзеня на 105 проц.

Канфэрэнцыя не дала вынікаў, бо ўласьнікі рашуча адмовіліся выплаціць дадатак.

**Пастанова Саюзу Сельска-Гаспадарскіх Работнікаў.** Як паказывае „Słowo“, гэтымі днямі адбылася ў Вільні канфэрэнцыя сябраў сказанага саюзу, на якой пастаноўлена зьвярнуцца да ўраду з прапазыцыяй, каб усе двары разам з інвэнтаром аддалі ў арэнду сельска-гаспадарскім работнікам за часьць ураджаю.

Пастанова гэта зроблена з прычыны атрыманьня весткі, што гаспадары двароў звальняюць значную большасьць сваіх работнікаў і маняцца аддаваць сваю зямлю ў арэнду сялянам –дробным гаспадаром.

Калі ўрад ня пpыме прыхільна гэтае пастановы, дык будзе абвешчана забастоўка сельска-гаспадарскіх работнікаў.

**У Беларускай Драматычнай Майстроўні.** У панядзелак, 21 бягучага студзеня адбылася чарговае паседжаньне Драматычнае Майстроўні. У першую чаргу сябры абмяняліся поглядамі аб паказанай 19 студзеня першай бягучай працы Майстроўні („Пашыліся ў дурні“), былі адзначаны дэфэкты з боку дэкорацыі, вопратак, грыму, застанавіліся на выкананьні кожнае ролі з пункту гледжаньня адпаведнасьці дадзеных тыпаў.

Урэшце прыйшлі да такіх вывадаў: 1) п'еса „Пашыліся ў дурні“ па прастаце, цікавасьці фабулы і лёгкаму камізму ёсьць зусім адпаведным матар'ялам, на якім маладыя працаўнікі Майстроўні могуць азнаёміцца з элемэнтарнымі псыхолёгічнымі перажываньнямі; 2) п'еса лёгка надаецца да рэальнай пастаноўкі. Па гэтых матывах пастаноўлена пакінуць азначаную п'есу ў рэпэртуары, й у наступнай працы зьвярнуць асаблівую ўвагу на пастаноўку (вырашана, між іншым, зрабіць спэцыяльныя дэкорацыі) ды на недапушчэньне заўважаных дэфэктаў.

Разглядаючы выкананьне паасобных працаўнікоў, Майстроўня адзначыла сябру Л. Звонскага і вучаніцу М. Шавель, ў якіх даручоныя ім ролі найбольш вышлі ўдалымі.

Разважаючы над агульным характарам далейшых прац Майстроўні, вырашылі ў будучыні ладзіць: закрытыя вечарыны (па запросінах), спэктаклі ды спэктаклі для вучняў. Зьвернута ўвага аб неабходнасьці пачынаць працы акуратна, ў вызначаны час (не пазьней 6—7 гадз. у вечары), ня лічачыся з публікай, якая прызвычаілася пазьніцца.

Урэшце абраны камісіі: 1) **статутная** ў складзе: Эдв. Будзькі, Арс. Канчэўскага і Мік. Красінскага; 2) Рэпэртуарная (Мастацкая Рада) ў складзе Франц. Аляхновіча, Леон. Звонскага і Мік. Красінскага.

Сябром: Яз. Гапановічу і Сам. Моргэнштэрну даручана прыняць і спраўдзіць рахунковасьць Майстроўні, якая вялася да апошняга часу.

**Вечарына.** У суботу, 19 гэтага студзеня Беларускай Драматычнай Майстроўняй наладжана была вечарына. Пастаўлена была камэдыя Крапіўніцкага „Пашыліся ў дурні“. Драматычная Майстроўня ў хуткім часе мае замер паставіць п'есу Ф. Аляхновіча „На Антокалі“.

---

ласкі, дык дзеля чаго ён будзе сам рабіць гэтыя падаркі па 180 гэкт. абшарнікам?

З атрыманай гэткім спосабам зямлі п. Квапінскі прапануе рабіць дзялянкі на 5 — 15 гэкт., залежна ад гатунку зямлі. Гэтыя дзялянкі маюць атрымаць бясплатна толькі *парабкі, што працавалі ў адным маёнтку 25 гадоў, чыншавікі і шматгадовыя арандатары.* Іншыя набыўцы павінны сплаціць вартасьць набытай зямлі ў працягу 30 гадоў. Хто азнаёмлены з жыцьцём нашай вёскі, той добра ведае, што па рэцэпту п. Квапінскага вельмі мала хто атрымае бясплатна зямлю; бо трудна знайсьці такога парабка, які пражыў бы ў аднаго пана аж 25 гадоў, а паняцьце аб шматгадовай арэндзе, таксама само па сябе нічога не гаворыць.

Як бачым, праект п. Квапінскага дужа палавінчаты, але нават і ён для большасьці старых пэпэсаўскіх правадыроў паказаўся занадта вострым. П. Марачэўскі адкрыта выступіў проціў парцэляцыі, бо гэта паменшыць сельска-гаспадарчую прадукцыю. Аргумэнт п. Марачэўскага цалком узяты з арсэналу нашых абшарнікаў, якія высоўваюць яго, як галоўны довад проціў зямельнай рэформы. Другі правадыр пэпэсаў п. Пэрль, праўда, не баіцца зьмяншэньня прадукцыі, але ...баіцца пункту: бяз выкупу. „Гэта“, кажа ён, *„так глыбока падважыла-б паняцьце ўласнасьці і канстытуцыі, што ня было-б магчымасьці правясьці ў жыцьцё...* „Хацеў-бы, каб гэты пункт быў выкінуты“. Што-ж значаць гэтыя словы сацыяліста п. Пэрля, калі не адкрытае прызнаньне права ўласнасьці за абшарнікамі на іх вялізарныя маёнткі? Чым-жа розьніцца пан сацыяліст Пэрль у гэтым выпадку ад абшарніка Дубановіча, з якім ён вядзе на словах такую заядлую барацьбу? І гэтыя пагляды п. п. Марачэўскіх і Пэрляў пераважылі на кангрэсе Польскай Сацыялістычнай Партыі і праект п. Квапінскага перадалі толькі як матар'ял для апрацаваньня паслам P. P. S. заканапраекту аб зямельнай рэформе.

Вось як блізка да сэрца прымаюць пэпэсы сялянскую справу! Ня лепш падыходзіць да яе і другая лявіцовая партыя „Wyzwolenie“, якая лічыць сябе прадстаўніцай інтарэсаў іменна працоўнага сялянства і крычыць, што толькі яна бароніць яго інтарэсы.

Але, каб высьніць сабе запраўдныя адносіны гэтай партыі да зямельнай рэформы, трэба толькі прыняць пад увагу тое, што рабіў і казаў правадыр гэтай партыі п. Тугут, калі ён узяўся быў за ўтварэньне габінэту пасьля правалу Хьена-Пяста. Ужо адно тое, што п. Тугут хацеў супрацоўнічаць з вітасоўцамі і хадэкамі, якіх сам-жа зусім слушна называў у сваіх соймавых выступленьнях здраднікамі працоўнага народу, паказвае, чаго трэба было спадзявацца гэтаму народу ад ураду п. Тугута. У абвешчанай праграме новага ўраду п. Тугут заявіў, што ягоны ўрад займенца перш за ўсё *скарбам, войскам і адміністрацыяй.* Аб зямельнай рэформе п. Тугут сказаў, што яе трэба правясьці якнайхутчэй, але пакуль „ёсьць дзюрка ў скарбе, гэтай рэформы добра і хутка правясьці ня можна“. Што-ж гэта значыць? На зямельную рэформу патрэбны вялікія грошы дзеля таго, што п. Тугут і ягоная партыя хочуць плаціць абшарнікам за зямлю, якую возьмуць ад іх, каб падзяліць сялянам. Ясна, што гэтыя грошы для абшарнікаў трэба спагнаць з працоўнага народу і не дарма-ж гэты самы п. Тугут пісаў у № 53 сваей газэты „Wyzwolenie“: „З селяніна і работніка трэба ўзяць столькі, колькі можа даць, *каб не памёр з голаду*“. Ня гледзячы на дрэннае становішча дзяржаўнага скарбу п. Тугут заўсёды выступаў проціў зьмяншэньня выдаткаў на войска, але вось з зямельнай рэформай трэба было пачакаць, бо скарб быў пусты, а ўзяць ад абшарнікаў зямлю бяз выкупу ў пана Тугута, як і ў п. Пэрля, не хапае сьмеласьці, бо гэта падважыла-б падваліны сучаснага сацыяльнага ладу, абапёртага на правох „сьвятое ўласнасьці“.

**Кумельган.**

### З жыцьця беларускіх студэнтаў у Празе.

**Рэфераты А. Б. П. С.** У лістападзе г. г. сябрам Цьвятковым быў прачытаны рэфэрат на тэму: „Сучаснае становішча ў Нямеччыне“ які выклікаў зацікаўленасьць студэнства, выяўленую ў жывой дыскусіі на рэфераце. Рэфэрат вёўся з пункту гледжаньня марксізму і дакладна прабраў, як прычыны, выклікаўшыя гэтае становішча, так і яскрава намаляваў самае становішча. Тэхнічныя варункі карыстаньня лёкалем не далі магчымасьці да канца давясьці дыскусію. Моцна шкодзіла няведаньне рэфэрэнтам беларускае мовы, якую радзілі-б рэфэрэнту вывучыць.

У нядзелю, 25 лістапада м. г. быў прачытаны рэфэрат с. Т. Грыбам на тэму: „Езус Назарэцкі“, які хацеў падыйсьці да Хрыста, як да чалавека і заснавацеля рэлігіі. Па тых гарачых выступленьнях, якія пачаліся па рэфэраце, аказалася, на колькі пякучаю справаю мамэнту ёсьць справа рэлігійная. Цікава адзначыць, што прыхільнікаў рэлігіі, калі зусім ня было на рэфэраце, то па крайней меры, не асьмеліліся выступаць адкрыта. Рэфэрат, адным словам, выказаў нэгатыўнае становішча значнае большасьці беларускага студэнства, што да рэлігіі, якое аддало раўначасна Хрысту павіннае, як вялікай асобнасьці сваей эпохі. па сколькі хто не прызнаваў Яго за мітычную Асобу.

Трэба адзначыць, што на рэфэраты А. Б. П. С. прыходзіць амаль ня ўсё беларускае студэнцтва.

Улетку былі прачытаны рэфэраты: с. Дварчанінам Ігнатам на тэму: „Прадгістарычная мінуласьць Беларускага народу“ і с. Бабровічам Казімірам на тэму—„Этыка і матарыялістычны сьветагляд“.

## Весткі з вёскі.

### Плісса на Дзісеньшчыне.

У каталіцкай шляхоцкай вёсцы Ліпляні на Тры Каралі, з суботы на нядзелю было вясельле. Жаніўся, браў сабе жонку з гэтае вёскі, нейкі паляк-асаднік з асады Папоўскае Сьвілко. На гэтае вясельле з розных асад, зьехалася шмат асаднікаў, паміж якімі былі і афіцэры.

У нашай мяйсцовасьці істнуе такі звычай, што толькі гаспадар ці гаспадыня той хаты. дзе адбываецца вясельле ці якая іншая бяседа, ці старэйшы з радні, маюць права наводзіць на гэтай бяседзе парадак. Госьці-ж, як роўна і малады з маладухаю, павінны трымацца зусім бязумешна нэйтральна.

Асаднікі-ж, будучы гасьцьмі чужое ім вёскі, ўзялі на сябе права быць гаспадарамі. Гаспадараваньне іх скончылася дзеля многіх вельмі кепска. Як водзіцца ўсюды па вёсках, паглядзець на вясельле сабраліся дзеці-падросткі. Асаднікі пачалі іх выганяць з хаты, а потым і выкідываць. Але гэтага яшчэ мала. Калі на гэты гвалт зьбеглася яшчэ больш такіх падросткаў, тады ваяўнічыя асаднікі абвясьцілі ім вайну. Павыкідаўшы дзяцей з хаты, яны са стрэламі з рэвальвэраў, кінуліся за імі на вуліцу, дзе пачалі ганяцца за імі. Перапалохоныя дзеці, пачалі хавацца па хатах. Тады асаднікі кінуліся на хаты. Такім чынам, яны атакавалі хаты грамадзян Шамакоўскага і Бялевіча, у якіх, ігралі ў „воза“ гаспадары гэтае і суседніх вёсак. Перш-наперш павыбівалі вокны, а потым пачалі страляніну. Гаспадары, ратуючыся ад асадніцкіх куляў, пакладіся на падлогу. Аднак-жа ня ўсе з іх адрабіліся толькі страхам. Есьць раненыя, нават цяжка, як напрыклад гаспадар вёскі Пунькі, Пабядзінскі, якога доктар пасьля першае перавязкі адправіў у павятовую бальніцу,

**Нехта.**

### Засьц. Зубялевічы, Ляхавіцкае гміны.

31 сьнежня ў нас, дзякуючы стараньням гр. гр. А. Плаўскага і В. Дамашэвіча, была наладжана беларуская вечарына. Былі пастаўлены дзьве п'ескі „Модны шляхцюк“ і „Стараста“. Ня гледзячы на тое, што ігра артыстаў-аматораў была ня зусім здавальняючай, на што было многа прычынаў, як брак адпаведнага будынку, дэкарацыі, грыму і інш., усё-ж ткі вечарына зрабіла моцнае ўражаньне на прысутных. Публіка шчыра вітала сваіх вясковых артыстаў (многія з каторых першы раз былі на сцэне) гучнымі воклäскамі. Пасьля спэктаклю пачаліся танцы, якія цягнуліся аж да раніцы. Наастатак трэба пажадаць, каб падобныя вечарыны адбываліся ў нас часьцей і, каб за прыкладам Зубелевіч пайшлі і другія вёскі, тады можа зьменшылася-б тое п'янства і тыя бойні, якія так запанавалі ў нашай вёсцы.

**Ікс.**

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

### Бюро краязнаўства пры Інбелкульце.

Інстытут Беларускае Культуры на наседжаньні сваім у сьнежні 1923 г. вынес пастанову аб неабходнасьці ўтварыць Бюро краязнаўства пры ім і выдзяліў 3-х сваіх сяброў — праф. Пічэту, Смоліча і Васілевіча для арганізацыі Бюро і далейшае яго працы пры ўдзеле прадстаўнікоў: Галоўпалітпрасьветы, АПО, КСМ, Рабпросу, Сацвыху і Госплану. Для выкананьня пастановы Інбелкульту, 29 мінулага сьнежня ў памяшчэньні Галоўпалітпрасьветы адбыўся арганізацыйны сход пры ўдзеле прадстаўнікоў Інбелкульту, Галоўпалітпрасьветы, Апо, Сацвыху і др., на якім у склад Бюро, апрача асоб, назначаных Інбелкультам, выбраны: ад Галоўпалітпрасьветы — Усьпенскі, ад Апо—Сянкевіч, ад КСМ—Ажгірэй, ад Рабпроса—Шабашова, ад Сацвыху—Сербаў.

Прэзыдыум Бюро зложаны з 3-х асоб—старшыні, заступніка яго і вучонага сэкратара. На гэтыя пасады выбраны: старшынёй — Смоліч, заступнікам старшыні—Сянкевіч і вучоным сэкратаром—Васілевіч.

Бліжэйшым сваім заданьнем Бюро лічыць наладжваньне сувязі з істнуючымі на мяйсцох арганізацыямі па краязнаўству і культурна-асьветнымі ўстановамі і склікаиньне краязнаўчае канфэрэнцыі.

Маючы на ўвазе атрыманьне Інбелкультам паведамкі аб тым, што 15—18 студзеня г.г. у Петраградзе адбудзецца 5 сэсія Цэнтральнага Бюро краязнаўства пры Рас. Акад. Навук, сходам выбраны на гэту сэсію ад Беларусі—старшыня Бюро Смоліч і праф. Пічэта.

**Васілевіч.**

## Тэатр і мастацтва.

### „Пашыліся ў дурні“--камэдыя ў 3-х дзеях.

*М. Крапіўніцкага.*

У суботу 19-га г. м. ў залі Беларускага Драматычнае Майстроўні ў Базыльянскіх мурох, адбыўся спэктакль пад назовай „Праводзіны Колядаў“, на якім была пастаўлена камэдыя ў 3-х дзеях М. Крапіўніцкага, „Пашыліся ў дурні“, які зьяўляецца пачаткам, узноўленай, пасьля доўгай пярэрвы, дзейнасьці, гэтак неабходнай для нашага культурнага і грамадзкага жыцьця ў Вільні ўстановы, як Беларуская Драматычная Студыя, хіба праз нейкае непаразуменьне названая Майстроўняй

Зразумела, што мы не зьяўляемся ворагамі ўзбагачэньня мовы праз стварэньне новых словаў, асабліва ў жыцьці адраджаючыхся народаў, але трэба памятаць, што лінгвісты ў большасьці рашуча выказваюцца проціў тварэньня новых словаў для тых паняцьцяў, якія ўжо маюць адзіную супольную ўсім народам назову. узятую пераважна з лацінскай ці грэцкай мовы.

У даным выпадку мы якраз маем справу з гэткім інтэрнацыянальным словам, як „студыя“, якога наагул пакуль што ня варта зьмяняць на іншае, тым больш, што новае слова „майстроўня“ нават ня створана, а ўзята таксама з чужых моваў, дзе яно ўжываецца выключна да азначэньня фізычнай працы (напр. кравецкая, шавецкая майстроўня) і ніколі да ўмысловай, (а тым больш артыстычнай!), для азначэньня якое ўжываецца слова „студыя“ (ад лацінскага studeo вучыцца), якое азначае „школа“.

А цяпер пяройдзем да самога спэктаклю. Трэба азначыць, што беларускія прадстаўленьні здараюцца гэтак рэдка, што кожны спэктакль зьяўляецца запраўдным тэатральным сьвятам, на якое чакаем з прагавітасьцю і ідзем з захопленьнем.

На жаль, на апошнім спэктаклі ня ўсё было так, як жадалася-б.

Перадусім ужо сам выбар п'есы быў даволі няўдачным.

Бо што-ж гэта ёсьць „Пашыліся ў дурні“? Са зьместу яго праконываемся, што гэта ня столькі камэдыя, сколькі народная п'еса, тэатральны прымітыў, рэч старая, чужая (пераклад з украінскага), добрая для аматорскіх гурткоў на правінцыі, але ў гэткім вялікім месьце як Вільня, у гэным культурным цэнтры Заходняе Беларусі, дзе, як ніяк, але істнуе гурток, хоць і невялічкі, беларускае інтэлігенцыі—ня зусім адпаведная.

Праўда, што пры ладжаньні беларускіх спэктакляў арганізатары, дзеля фінансавых труднасьцяў, прымушаны ў значнай меры лічыцца з густам публікі, умысловы ровень якой, у большасьці, даволі нізкі, дзеля чаго камэдыі карыстаюцца вялікшым пасьпехам, чым драмы і наагул паважныя творы; але-ж можна было паставіць якуюсь больш салідную камэдыю, ды й беларускую, а не перакладную, як гэта мела месца і выбар якой на пачатак ўзноўленай працы студыі быў асабліва неадпаведным. Зьмест „камэдыі“, самы шаблённы: парабкі двух, ласых на грошы, гаспадароў млынара і каваля, кахаюцца ў іх дачках і, калі тыя не згаджаюцца на шлюб, пускаюцца на хітрыкі, дзеля якіх гаспадары прымушаны даць дазвол і ўсё канчаецца двума вясельлямі.

Зразумела, што на гэткім вузкім полі артыстам трудна было „разьвярнуцца“ і ніхто асабліва ня выказаўся. П. Ф. Аляхновіч ў ролі млынара Куксы іграў добра, як заўсёды, але падчас шаржаваў і наагул нам здаецца, што яму больш падходзяць інтэлігентныя ролі; п. Гапановіч, як каваль Драўко, быў даволі добрым і праз кантраст у выглядзе (рост, рухі, гутарка) з млынаром, павялічваў камізм гэных роляў, калі можам яму што закінуць, дык тое, што падчас ён „таптаўся“ на сцэне; п. Міхалевіч ў ролі валаснога пісара, памагаючага маладым, даў даволі верны тып і выканаў сваю невялікую ролю з стараннасьцю і арыгінальна, але найлепшым быў п. Звонскі ў ролі Нічыпара, падарожнага чалавека, мастацкую гульню якога, ўжо мы бачылі з вялікай прыемнасьцяй ў „Страхах жыцьця“ Ф. Аляхновіча. І ў гэнай рэчы, ў камічнай ролі бадзячага п'яніцы, даў ён нам скончаны, нязвычайна рэальны тып, апрацаваны з найвялікшай дэтальнасьцяй.

Артыстка, граўшая дачку млынара Ганулю, выканала ролю даволі бледна і ня мела патрэбнай свабоды, затое артыстка, гуляўшая дачку каваля Грыпіну (якую мы ўжо бачылі ў „Пінскай шляхце“ — Марцінкевіча) згуляла бадзёра, зусім свабодна і, маючы пры гэным адпаведныя „вонкавыя даныя“,—дае́ць грунт да найлепшых спадзеяў у будучыне.

Адносна выканаўцаў роляў парабкоў трэба падкрэсьліць даволі жывую і натуральную ігру ў ролі Антона, парабка млынара, артыста, якога ўжо мы бачылі раней ў ролі Куторгі ў „Пінскай шляхце“. Па кольку там ён ня здолеў даць скончанага, жыцьцёвага тыпу, дык тут роля яму ўдалася; да даўняй бойкасьці далучылася пэўная рэальнасьць. Застаецца толькі пажадаць яму далейшых пасьпехаў на гэнай дарозе.

На жаль, нельга сказаць таго-ж аб ролі другога парабка, Васіля, якая была згуляна бязцьветна і не пакінула ўражаньня. З тэхнічнага боку трэба адзначыць, што ўкраінскі стыль быў ня зусім вытрыманы. Бо хоць вопраткі, асабліва жаночыя, былі добрыя і адпаведныя, але дазволім сабе сумлявацца ў тым, каб украінскі млынар пяяў, будучы у добрым гумары, „Чаму-ж мне ня пець?“ і каб тыя-ж украінскія сяляне на заручынах скакалі „лявоніху“!

Пачатковыя словы п'есы заглушылі занадта энэргічныя ўдары молата ў кузьні, затое мы ня чулі суфлёра, што псавала крыху ўражаньне ў „Страхах жыцьця“.

Вельмі нас усьцешыў і прыемна зядзівіў від новае заслоны (куртыны), за што арганізатарам належыцца шчырая падзяка.

Дэкарацыі таксама былі ня зусім здавальняючыя. Брак столі на сцэне псаваў уражаньне, бо было відаць сьцены за кулісамі.

Таксама трэба прывітаць увядзеньне друкаваных праграмаў, з жыцьцяпісам аўтара і вылічэньнем яго галоўных твораў і часу й месца іх пастаноўкі на беларускай сцэне.

Не хапала там толькі прозьвішчаў выканаўцаў роляў. У канцы трэба сказаць слова і аб публіцы, якой было даволі шмат. На жаль, старэйшага грамадзянства бачылі мы значна менш, чым звычайна, а моладзь вяла сябе зусім некультурна, голасна гаманіла падчас ігры, шумела, стукала ў зачыненыя пасьля пачатку прадстаўленьня дзьверы, прымушаючы іх адчыняць і г. д.

Нам здаецца што арганізатары занадта цэрамоняцца з хуліганскім элемэнтам сярод публікі і што трэба гэткіх паночкаў, калі ня скуткуець слова, вывадзіць сілай вон, асабліва п'яных (бо і такія здараюцца!).

Цяпер застаецца толькі пажадаць арганізатарам далейшага пасьпеху ў тэй, карыснай для грамадзянства, працы, якую вядзе Беларуская Драматычная студыя і зазначыць, што з нецярплівасьцю чакаем новае, маем надзею, больш паважнае чым гэная, пастаноўкі ў найхутчэйшым часе.

**Ars.**

## Ветэрынарныя парады.

### Апой у коняў (раматус капытаў).

Апойкі, або раматус капытаў, знаходзіцца ў каня тады, калі пасьля цяжкай працы ці шыбкай язды ўгрэтага каня паставяць на ветры, або напояць сьцюдзёнай вадой, ці накормяць зярнятамі. Калі апойкі (раматус) захваціць пярэднія ногі, дык конь будзе стаяць, выпягнуўшы пярэднія ногі наперад, а задпія падагнуўшы пад сябе. Калі каня паспрабаваць гнаць, дык ён будзе дрыпаць пярэднімі нагамі, як спутаны. Калі конь будзе апоен на заднія ногі, дык пярэднія ногі конь будзе трымаць пад сябе і, калі павясьці каня, дык ён заднія ногі будзе цяжка цягнуць, а пярэднімі часьценька тупаць.

Каб вылячыць каня, ёсьць шмат спосабаў. Найпрасьцейшы спосаб, які не вымагае ні зельля ні клопату і які найболей даступны селяніну, будзе гэткі: паставіць хворага каня на гліну. У сярэдзіну даць каню адзін фунт любэрскай солі (1 фунт солі на бутэльку вады). Першых два дні карміць каня ў волю сенам, не даючы ні каплі вады. На трэці дзень каню трэба даць чверць вядра вады і фунтаў паўтара аўса. На чацьвёрты дзень даць каню апрача сена фунтаў 3 аўса і паўвядра вады. На пяты дзень даць тры чверці вядра вады і гарнец аўса; на шосты дзень трэба даць каню поўнае вядро вады і фунтаў 5 аўса; на сёмы дзень вады даецца каню $1^1/_2$ вядра і аўса фунтаў 7. Праз увесь час сена каню даецца ў волю. Трэба толькі пільнавацца каб не даваць болей вады, як тут сказана. Пасьля сямі дзён каня можна карміць і паіць звычайным парадкам і ўжываць на лёгкую работу.

**Язэп Хаданёнак.**

***Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Змаганьня“ будзе і яго супрацоунікам.***

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.